 




# БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР

ЖНІВЕНЬ 1994 года

№4 (11) Кошт — па дамоўленасці


## ДА ЧЫТАЧОЎ

*Шаноўныя калегі! Падпіску на газэту "Беларускі калекцыянер" можна аформіць паштовым пераказам (адвольная сума грошай, зь якой будзе вылічвацца кошт дасланых Вам газэтаў і паштовых выдаткаў) на адрас: 220131, Менск-131, п/с 417, Уладзіміру Цярохіну.*

*У Менску "Беларускі калекцыянер" заўжды можна набыць у шапіку Таварыства Беларускай Мовы імя Францыска Скарыны: пр-т Ф. Скарыны, 20. Час працы з 11.00 па 18.00, акрамя нядзелі й панядзелка.*

*Аб'явы чытачоў па тэматыцы беларускага калекцыянаваньня друкуюцца задарма.*

Да 200-угодкаў паўстаньня 1794 году

# ПРЫСЬВЕЧАНЫ ТАДЭВУШУ КАСЬЦЮШКУ




1




2




3




4




5

III · WYSTAWA FILATELISTYCZNA ZIEMI PAŁUCKIEJ
POCZTA POLSKA
ŻNIN - 21·9·1969

6




7




8




9

Першая паштовая мініятура з партрэтам Т. Касцюшкі выйшла ў сьвет у 1932 годзе. Марка не зьвязаная зь якой-небудзь канкрэтнай падзеяй жыцьця нашага славутага земляка, яна была прысьвечана 200-ым угодкам нараджэньня прэзыдэнта ЗША Дж. Вашынгтона. На мерцы (мастакі Р. Клячэўскі й В. Вацак) – тры партрэты з польскім і амэрыканскім дзяржаўнымі сьцягамі абапал, Т. Касьцюшкі (зьлева) й К. Пуласкага (справа) – актыўных удзельнікаў вайны за незалежнасць ЗША (мал. 1).

Вобраз Т. Касьцюшкі на марцы ўзнаўляе яго аблічча з партрэта А. Аляшчынскага, напісанага мастаком у 1829 годзе. Пазьней гэты партрэт неаднаразова рэпрадукаваўся на паштовых марках Польшчы. Марка 1932 году ў польскай філатэліі паклала пачатак шматлікім выпускам, прысьвечаным паўстаньню 1794 году й яго кіраўніку Т. Касьцюшку.

На мініяцюры "150 гадоў Канстытуцыі Злучаных Штатаў Амэрыкі. 1787-1937" зьмешчаныя выявы трох гістарычных асобаў – Т. Касьцюшкі, Т. Пайна й Дж. Вашынгтона. У 1938 годзе на адной з марак гістарычнай сэрыі, выпушчанай да 20-годзьдзя нежалежнасьці Польшчы, паказаны нацыянальныя героі Польшчы – Я. Дамброўскі, Т. Касьцюшка й Ю. Панятоўскі.

Шмат цікавых паштовых выпускаў пра паўстаньне 1794 году, начальніка паўстаньня, пра яго паплечнікаў выдадзена ў пасьляваеннай Польшчы. Гэта і маркі, і адмысловыя гашэньні, і паштоўкі. Паштова-філятэлістычны матэрыял пра Касьцюшку надзвычай вялікі, і расказаць пра яго ў гэтым артыкулу няма магчымасці. Таму абмяжуемся толькі найбольш цікавымі выпускамі.

На трох першых паштовых марках пасьляваеннай Польшчы мы бачым партрэтныя выявы Т. Касьцюшкі, Р. Траўгута й Я. Дамброўскага. Сэрыя гэтых марак атрымала ў філятэлістаў назву "Правадыроў".

З маркі на нас зноў пазірае Касьцюшка такі, якім яго ўбачыў у 1829 годзе мастак А. Аляшчынскі. Дарэчы, гэты партрэт неаднаразова будзе ўзноўлены на паштовых марках Польшчы.

Наступны выпуск – сэрыя лодзінскага выпуску 1945 году. На марцы – ўзьведзены ў 1930 годзе ў г. Лодзі помнік паўстанцкаму кіраўніку работы скульптара М. Любельскага. Зьнішчаны фашысцкімі акупантамі помнік з удзелам аўтара аднавілі ў 1960 годзе. Але на марцы мы бачым даваенную скульптуру Касьцюшкі.

Такі ж лёс спасьціг і помнік на Вавэлі ў Кракаве, пастаўлены яшчэ ў XIX стагодзьдзі (скульптар Леанарда Марконі, 1835-1899 г.).

У 1960 годзе жыхары Дрэздэна рэканструявалі помнік і падаравалі яго польскаму народу, дапамаглі ўстанавіць на ранейшым месцы. Аднак яго выява на паштовай марцы зьявілася на шмат гадоў раней. Кракаў вызвалілі 19 студзеня 1945 году. Палякі з вартаю перайманьня апэратыўнасьцю аб'явілі конкурс на паштовыя маркі ўжо 12 сакавіка 1945 г. Камісія ўхваліла эскізы графіка Я. Вільчыка, а ў красавіку-траўні 1945 году кракаўская сэрыя марак ужо была пушчана ў абарачэньне. Гэтая сэрыя цікавая для беларускіх філятэлістаў яшчэ й тым, што на адной марцы зьмешчана выява кракаўскага помніка, прысьвечанага Грунвальдзкай бітве, які, дарэчы, таксама быў зьнішчаны ў вайну.

Ня меншы інтарэс уяўляе сэрыя, выдадзеная ў 1954 годзе да 160-ых угодкаў паўстаньня 1794 года. На першай марцы паказаны фрагмент манумэнтальнага палатна Войцеха Косака й Яна Стыкі – панарама "Рацлавічы", якая ўзнаўляе перамогу паўстанскіх касінераў над войскамі расейскага генэрала Ф. Дзянісава пад вёскай Рацлавічы (4.IV.1794 г.). Сама карціна, над якой мастакі працавалі амаль тры гады, захоўваецца ў Нацыянальным музэі г. Уроцлава, куды перададзена пасьля вайны са Львова. На другой марцы – цэнтральная частка вядомай карціны Яна Матэйкі "Касьцюшка пад Рацлавічамі", якую сусьветна вядомы мастак напісаў у 1888 годзе. Арыгінал славутага твора знаходзіцца ў экспазыцыі Нацыянальнага музэя ў Кракаве. Трэцяя марка гэтай сэрыі адлюстравала адзін з эпізодаў паўстаньня, які адбыўся 17 кастрычніка 1794 году ў Варшаве. На пярэднім пляне маркі мастак Б. Брант зьмясціў шаўца-палкоўніка Яна Калінскага.

З наступных выпускаў марак польскай пошты да тэмы паўстаньня 1794 году належаць наступныя мініяцюры: марка сэрыі 1961 году "Вялікія палякі" з партрэтам Т. Касьцюшкі работы Ю. Касінскага, напісаным у 1790 годзе (Нацыянальны музэй у Варшаве), а таксама дзьве маркі, выдадзеныя да 150-х угодкаў сьмерці Касьцюшкі. На абодвух – партрэты Касьцюшкі, напісаны ўсё тым жа А. Аляшчынскім. Партрэт захоўваецца ў калекцыі Музэю Войска Польскага. Мабыць, гэтая выява аблічча Касьцюшкі – адна з самых удалых, бо менавіта яна найчасьцей выкарыстоўваецца стваральнікамі польскіх марак і адмысловых штэмпеляў.

У 1970 годзе польская пошта выпусьціла ў абарачэньне марку з выявай партрэта Касьцюшкі на костцы (мастак Я. Рустэм. Нацыянальны музэй у Варшаве).

У 1775-1783 гадах Т. Касьцюшка ўдзельнічаў у вайне за незалежнасьць ЗША. І гэты пэрыяд ягонай дзейнасьці знайшоў адпаведнае адлюстраваньне ў філятэліі. Пра дзьве такія маркі згадвалася вышэй. У 1975 годзе ў сьвет выйшла сэрыя марак і блёк, прысьвечаны 200-годзьдзю незалежнасьці ЗША. У сэрыі ёсьць марка з Касьцюшкам на фоне групы валанцёраў амэрыканскага войска, а на блёку – партрэт Касьцюшкі пад амэрыканскім сьцягам і надпіс "За вашу й нашу вольнасьць". У 1979 годзе выходзіць чарговая марка з Касьцюшкам. Гэтым разам на ёй выяўлены ўстаноўлены ў Філядэльфіі помнік-дарунак польскага народа амэрыканскаму на ўшанаваньне 200-годзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці ЗША. Гэта не адзіны ў ЗША помнік нашаму земляку. Памяць яго ўвекавечана творамі скульптурнага мастацтва ў чатырох амэрыканскіх гарадох. Адзін зь іх – у Саратозе, у бітве пад якой найбольш яскрава выявіўся палкаводчы талент Касьцюшкі. Гэты помнік паказаны на марцы, выпушчанай паштовым ведамствам ЗША яшчэ ў 1933 годзе. Зьлева кароткі подпіс: "Касьцюшка. 1783-1933" (мал. 2).

Адзначаючы 200-ю гадавіну бітвы пад Саратогай, польская пошта праводзіла ў Кракаве 1-17 кастрычніка 1977 года адмысловае гашэньне штэмпелем з партрэтнай выявай Касьцюшкі на фоне карты ЗША (мал. 3). Штэмпеляў адмысловага гашэньня зь імем ці выявай Касьцюшкі пошта Польшчы выкарыстоўвала шмат і ў розных гарадох. Сярод іх адмысловыя гашэньні, прысьвечаныя 250-годзьдзю стварэньня 1-ай дывізіі Войска Польскага, названай імем Касьцюшкі, адкрыцьцю помніка ў Фільдэльфіі, 150-ым угодкам ягонай сьмерці ды шмат якім іншым падзеям жыцьця й дзейнасьці славутага генарала. Імя Касьцюшкі ў кагорце народных героўў Польшчы бадай што займае першае мейсца, яно ўвекавечана ў назвах школаў, ліцэяў, шахтаў, прадпрыемстваў, вуліц. Многія з гэтых прадпрыемстваў і ўстаноў, адзначаючы тыя ці іншыя свае юбілейныя даты, праводзлі адмысловыя гашэньні, напрыклад, да 50-годзьдзя капальні каменнай солі імя Касьцюшкі ў Вапна, 50-ых угодак гімназіі імя Касьцюшкі ў Мехаве, 30-годзьдзя Палітэхнічнага інстытута імя Касьцюшкі ў Кракаве, 175-годзьдзя гуты імя Касьцюшкі ў Хожаве й г. д. (мал. 4, 5, 6).

Да угодкаў розных падзеяў паўстаньня 1794 года й асабістага жыцьця Т. Касьцюшкі Саюз Польскіх Філятэлістаў арганізаваў філятэлістычныя выстаы, на некаторых зь іх ужываліся адмысловыя штэмпелі. Выкарыстоўваліся яны й па-за межамі Польшчы, напрыклад, у Аўстраліі. Ня ўсе ведаюць, што на гэтым далёкім кантыненце ў горнай сыстэме Вялікага водападзельнага храбта (напоўдні ад Канбэры) ёсьць гара Касьцюшкі (2230 м над узроўнем мора). У Аўстраліі быў выпушчаны канверт "Першага дня" з выяваю гэтае гары й адмысловым штэмпэлем. Арыгінальны штэмпель паштовага аддзяленьня сувязі параплава "Касьцюшка", які выкарыстоўваўся у перадваенныя гады (мал. 7).

І яшчэ пра некалькі цікавых і незвычайных марак і адмысловых штэмпэляў. У гады 2-ой сусьветнай вайны ў Нямеччыне ў некалькіх лягерах палонных афіцэраў існавала лягерная пошта са сваімі маркамі й штэмпэлямі. Пошта працавала ў чатырох лягерах: "Мюрнаў", "Нойбрандэнбург", "Грос-Борн" і "Вальдэнбэрг". У 1944 годзе ў лягеры II-C "Вальдэнбэрг" была выпушчана марка да 150-ых угодкаў паўстаньня 1794 году. Лягерны мастак Е. Піхель намаляваў на марцы групу касінераў – узброеных косамі паўстанцаў. Зьверху – дата: "24.III.1794" (мал. 8). За пэрыяд зь ліпеня 1943 па сакавік 1944 году ў гэтым лягеры была выпушчана сэрыя пад агульнаю назваю "Гетманы". Адна з марак прысьвечана Касьцюшку. Мастак Е. Піхель зьмясьціў партрэт начальнага правадыра паўстаньня ў арнамэнтальным вянку, укампанаваным з дубовага лісьця і паўстанскай зброі. Знізу подпіс: "Т. Касьцюшка. 1746-1817".

У тым жа 1944 годзе ў іншым лягеры палонных вайскоўцаў II-Д- "Грос-Брон" лягерныя мастакі М. Несьцяровіч і В. Булзацкі стварылі сэрыю марак "Змагары за волю". І ў ёй адна з марак была прысьвечана Касьцюшку. Варта згадаць і адмысловы штэмпешь пошты лягеру "Вальдэнбэрг", ужыты для гашэньня 4 красавіка 1944 году. На малюнку штэмпэля – шапка-канфэдэратка, паўстанская зброя й надпіс "Рацлавічы. 4.IV.1794" (мал. 9).

Польская пошта выдала маркі, паштоўкі й адмысловыя штэмпэлі, прысьвечаныя і іншым удзельнікам паўстаньня 1794 году. На іх – выявы партрэтаў і помнікаў, якія ўшаноўваюць памяць Г. Калантая, Я. Калінскага, Я. Дамброўскага, Ю. Панятоўскага. У 1956 годзе ў сэрыі марак "Помнікі Варшавы" ў абарачэньне паступіла марка, прысьвечаная князю Ю. Панятоўскаму, брату апошняга караля Рэчы Паспалітай. На марцы – створаны ў 1830 годзе скульптарам В. Торвальдсэнам помнік паўстанскаму генэралу, пасьля маршалу напалеонаўскага войска. У 1944 годзе гітлераўцы разбурылі помнік, у 1952 годзе ён быў адноўлены (на сродкі жыхароў сталіцы) на мадэлі, якая захоўвалася ў Капэнгагене. Наогул, лёс гэтага помніка быў ня просты. Працяглы час ён стаяў у Гомелі. Паводле Рыскай дамовы, яго ў 1922 годзе дэмантавалі й перадавалі Польшчы.

Памеры газэтнай плошчы не дазваляюць расказаць пра ўсе паштовыя выпускі, прысьвечаныя нашаму земляку Касьцюшку, начальнаму правадыру паўстаньня 1794 года, нацыянальнаму герою Польшчы, Беларусі й Злучаных Штатаў Амэрыкі, а таксама пра іншых кіраўнікоў і пра астатнія падзеі паўстаньня. Адзін толькі сухі пералік прыведзеных вышэй паштовых выпускаў Польшчы й іншых краінаў паказвае, наколькі мы занядбалі сваю гісторыю. Філятэлісты нашай дзяржавы спадзяюцца, што й пошта Рэспублікі Беларусі будзе гэтым разам сярод тых, хто адзначыць 200-ыя ўгодкі паўстаньня 1794 году, спамяне добрым словам тых, што дзеля народнага шчасьця не шкадавалі свайго жыцьця.

ЛЕЎ КОЛАСАЎ,
г. Менск.

 

# Паштовыя афэры

## Дзякуючы афэрыстам зь Міністэрства сувязі нашая краіна можа трапіць у «чорны сьпіс»

**На філятэлістычных рынках у Маскве, Пецярбургу, Вільні, Рызе ды іншых гарадох сёньня па вялікім кошце прадаюцца канвэрты г.зв. «першага дня» (Premier Jour), прысьвечаныя выхаду ў сьвет беларускіх марак.**

Праблема, аднак, у тым, што нашае Міністэрства сувязі не рабіла такіх кляймененьняў (гашэньняў). Напрыклад, маркі «Герб Полацка», «М.Гарэцкі», «Касьцёл у Магілёве», «Герб Менска» і некаторыя іншыя выпушчаныя ў паштовае абарачэньне без кляйменьня «першы дзень». А на рынках за мяжой яны прадаюцца.

«Ня можа быць!» — зьдзіўляюцца ў Міністэрстве сувязі. Між тым, на рынках замежжа зьяўляюцца ўсё новыя і новыя фальшывыя кляймені. Яны зробленыя тым самым штэмпелем, якім робяцца афіцыйныя кляйменьні. Штэмпель знаходзіцца ў сэйфе Міністэрства сувязі. Доступ да сэйфа мае абмежаванае кола чыноўнікаў, і таму пры жаданьні можна было б выявіць афэрыстаў. Аднак кіраўніцтва Міністэрства не сьпяшаецца правесьці дасьледаваньне.

«Гэтыя афэры хутка стануць вядомыя сусьветнай філятэлістычнай грамадзкасьці, і мы ўліпнем у «чорны сьпіс» на доўгія гады, прэстыж беларускай пошты будзе падарваны», — кажа адзін з аўтарытэтных беларускіх філятэлістаў.

**П.П.**




**Марка з фальшывым кляйменьнем**

**З газеты «Свабода»**



# ФІЛЯТЭЛІСТЫЧНАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ПОЛЬШЧЫ

У канцы 1993 года польскія філятэлісты атрымалі каштоўны і надзвычай цікавы падарунак — Польскае выдавецтва навуковае выдала дзесяцітысячным накладам «Энцыклапедыю філятэлістыкі» (Encyklopedia filatelistyki. PWN, Warszawa, 1993; у далейшым «ФЭ»). Выданьне яе прымеркавана да 100-х угодкаў першых філятэлістычных арганізацыяў у Польшчы. Над яе стварэньнем, пачатым у 1978 годзе, працавалі вялікі аўтарскі калектыў з 57 чалавек, самых вядомых, дасьведчаных і паважаных у Польшчы філятэлістаў, і 11 рэдактараў, сталых супрацоўнікаў Польскага навуковага выдавецтва. Дзевяць аўтараў не дачакаліся выхаду кнігі ў сьвет. На 680 старонках гэтай навуковай працы зьмешчана некалькі тысячаў напісаных на працягу 15 гадоў энцыклапедычных артыкулаў па гісторыі філятэліі й пошты, тэхніцы друкаваньня марак, краінаў эмітэнтаў паштовых марак, якія існуюць у нашыя дні або існавалі раней. Чытач знойдзе ў «ФЭ» і падрабязныя зьвесткі пра філятэлістычныя арганізацыі й філятэлісцкую прэсу шмат якіх краінаў сьвету, а таксама вычарпальную інфармацыю пра міжнародныя філятэлісцкія выставы, якія ладзіліся з 1930 года. Дадзены вычарпальныя тлумачэньні філятэлісцкіх тэрмінаў, характарыстыкі розных выпускаў марак, наддрукоўак, праколаў, біяграфіі вядомых польскіх і замежных філятэлістаў.

У кнізе — каля 100 дзьвюкаляровых мапаў, каля 700 чорна-белых ілюстрацый. У канцы прыкладзены каляровыя рэпрадукцыі найбольш вядомых рарытэтаў польскай і сусьветнай філятэліі.

На выставе «Філятэма-93», што адбылася ў Чынісела Бальсамо (Італія) ў кастрычніку мінулага года, «ФЭ» атрымала першую сваю ўзнагароду — вялікі пазалочаны мэдаль.

Шматгадовая праца польскіх філятэлістаў атрымала заслужаны посьпех. І тут Польскі саюз філятэлістаў аказаўся папераджэ сваіх калегаў з краінаў так званага былога сацыялістычнага лягера. Пра такое выданьне нам, беларускім філятэлістам, можна толькі марыць і па-добраму пазайздросьціць.

Калі атрымаў падарункавы асобнік «ФЭ», мяне наперш зацікавіла, а што ў ёй ёсьць пра нас — беларускую філятэлію. На вялікі жаль, зьвесткі пра нашу арганізацыю й яе працу знайшоў надзвычай мала. На 48-й старонцы зьмешчаны кароткі гістарычны нарыс пра Беларусь, у якім узгадваюцца маркі Беларускай Народнай Рэспублікі 1920 года, нямецкая пошта (Postgebiet OB. Ost) 1918 года, мясцовыя савецкія выпускнікі ў Рагачове, Себяжы, Менску 1920-22 гадоў, палявая пошта корпуса Доўбар-Мусьніцкага ў 1918 годзе, а таксама пошта перыяду акупацыі Беларусі 1941-44 гадоў. У канцы гаворыцца, што з 1992 года пошта Рэспублікі Беларусь выпускае ўласныя маркі. І ніводнага слова ні пра Беларускі саюз філятэлістаў, ні пра газэту «Беларускі калекцыянер». Толькі ў артыкуле пра Польскі саюз філятэлістаў згадваецца, што «Лодзінскае аддзяленьне ПСФ падтрымлівала сувязь з філятэлістамі Менска (Беларусь)». Асобныя кароткія й шматковыя зьвесткі з гісторыі беларускай пошты сустракаюцца ў артыкулах, прысьвечаных гісторыі польскай пошты, палявой пошты корпуса Доўбар-Мусьніцкага (зьмешчана падрабязная мапа дыслакацыі корпуса ў раёне Жлобін-Рагачоў-Бабруйск), пошты гэтак званай Сярэдняй Літвы (раён Ашмян, Браслава, Ліды), палявой пошты 1919 года ў Горадні.

Спамінаюцца ў «ФЭ» саюзы й таварыствы філятэлістаў, якія існавалі да вайны ў Бярэсьці, Горадні, Вільні, Беластоку. У вялікім сьпісе дзяржаў, што выпускаюць свае маркі, ёсьць і Беларусь, але ніводная марка нашай краіны не паказана. У «ФЭ» прыведзены сьпіс Міжнароднай федэрацыі філятэлістаў (FIP), зразумела, сярод яе 70 сяброў няма ніводнай рэспублікі былога СССР. Тут пададзена даведка, што нашы суседзі — саюзы філятэлістаў Балтыі ўжо ўступілі ў FIP. Пра Беларускі саюз філятэлістаў, зноў жа, ніводнага слова.

Будзем спадзявацца, што ў другім выданьні «ФЭ» Польшчы спамянутыя прaлікі й агрэхі будуць пераадолены й філятэлістычная Беларусь знойдзе ў ёй адпаведнае адлюстраваньне.

Чытаў «ФЭ» ЛЕУ КОЛАСАУ.

# ЯК КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ ЗРАБІЛІ СІМВАЛАМ СПАРТЫЎНАЙ ДОБЛЕСЦІ

Аказалася, што мы толькі прыадкрылі завесу над здзелкай паміж Міністэрствам сувязі і інфарматыкі рэспублікі і амерыканскай фірмай «Сэм Меламед» (гл. «Звязду» за 10 лютага). Нагадаем, што яе вынікам стала распаўсюджанне на замежным філатэлістычным рынку новых беларускіх паштовых марак, аб якіх нашы калекцыянеры нічога не ведалі да з'яўлення публікацый у спецыялізаваных германскіх часопісах.

Зрабіўшы наддрукоўкі на вядомых 5-рублёвых марках з гербам і флагам Беларусі, бізнесмены ад філатэліі «прысвяцілі» іх чэмпіянату свету па футболу ў ЗША і Алімпіядзе ў Ліпехамеры. Тое ж самае было зроблена і з 5-рублёвымі зубцовым і беззубцовым блокамі, выпушчанымі яшчэ ў гонар... 1000-годдзя беларускай праваслаўнай царквы. Так у адно імгненне адлюстраваны на блоках крыж Ефрасінні Полацкай стаў сімвалам спартыўнай доблесці. Але ўжо за 1.500 рублёў.

Творчасць Марка Шагала натхніла фірмачоў «ашчасліві́ць» філатэлістаў так званым малым лістом з 8 марак двух сюжэтаў агульным коштам 12 тысяч рублёў, упрыгожаным... устарэлай эмблемай Еўрапейскага паштовага саюза, членам якога Беларусь ніколі не была! І нумарным блокам наміналам у 2.500 рублёў. А агульны кошт поўнага набору складае 38 тысяч 500 рублёў. Зразумела, што друкаваліся гэтыя маркі і блокі невялікімі тыражамі і не для беларускіх калекцыянераў. Сэнс — зарабіць валюту. Але колькі яе застанецца міністэрству ад прадпрымальнага С. Меламеда, які ўжо зараз праз філатэлістычныя фірмы Амерыкі і Еўропы прадае гэтыя маркі і блокі па сваіх манапольных цэнах, што даступныя толькі багачам, невядома.

Тым часам, як паведамляе спецыялізаваны нямецкі часопіс «Міхель — Рундшау», Еўрапейскі паштовы саюз у Берне пачаў уласнае расследаванне абставін выпуску марак і блокаў з незаконным выкарыстаннем яго эмблемы. Відаць, нашай маладой дзяржаве нанесены не толькі міжнародны, але і маральны ўрон.

**Аляксандр ЛІЗАРАЎ,**
**кандыдат тэхнічных навук, член прэзідыума Гомельскага абласнога аддзялення Саюза філатэлістаў;**
**Уладзімір ЛАРЫЁНАЎ,**
**філатэліст, член Саюза журналістаў.**

# «НЕКАМПЕТЭНТНАСЦЬ ЦІ «ГУМАНІТАРНАЯ» ДАПАМОГА БІЗНЕСМЕНУ СЭМУ МЕЛАМЕДУ?»

*У сувязі з публікацыяй у «Звяздзе» 10.02.94 г. матэрыялу, прысвечанага спекуляцыйнаму выпуску паштовых марак Рэспублікі Беларусь у 1993 годзе, паведамляем наступнае:*

*1. Выпуск гэтых марак не быў узгоднены з Камісіяй па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны ВС.*

*2. Па гэтаму факту наша камісія пачала дэпутацкае расследаванне.*

*Нядаўна камісія прыняла спецыяльнае рашэнне аб стане філатэліі ў нашай краіне. Просім надрукаваць у скарочаным выглядзе яго тэкст — да ведама беларускіх філатэлістаў.*

**Намеснік старшыні Камісіі Алег ТРУСАЎ.**

Пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь узнікла неабходнасць у самастойным выпуску і рэалізацыі дзяржаўных знакаў паштовай аплаты, гаворыцца ў дакуменце. Аднак паліграфічная база, якая існуе ў рэспубліцы, не можа забяспечыць высакаякасную іх вытворчасці ў адпаведнасці з сусветнымі патрабаваннямі. Нездавальняюча ажыццяўляецца друкаванне маркіраваных канвертаў і паштовак, нават нескладаных па колеравай гаме. Да гэтага часу не вызначана базавае прадпрыемства і адсутнічае спецыяльнае абсталяванне па выпуску дзяржаўных знакаў паштовай аплаты. У выніку Міністэрства сувязі і інфарматыкі РБ размяшчае заказы па іх вырабу на Маскоўскай друкарскай фабрыцы. Выдаткі ў 1993 годзе склалі больш за 202,5 млн. рублёў.

У Міністэрстве сувязі і інфарматыкі не створана падраздзяленне, якое займалася б пытаннямі заказу і рэалізацыі знакаў паштовай аплаты. Не ўпарадкавана абанементнае забеспячэнне насельніцтва рэспублікі філатэлістычнай прадукцыяй і не зацверджаны парадак афіцыйнага абмену знакамі паштовай аплаты з замежнымі паштовымі адміністрацыямі і карэспандэнтамі, адсутнічаюць неабходная рэклама выпушчаных паштовых марак і іх шырокая рэалізацыя. Не выпускаюцца клясеры і каталогі беларускіх марак. У кіёсках «Саюздруку» нельга набыць пагашаныя і непагашаныя беларускія маркі.

**КАМІСІЯ ПАСТАНАЎЛЯЕ:**

1. Для вырашэння арганізацыі і выпуску дзяржаўных знакаў паштовай аплаты і іншай філатэлістычнай прадукцыі прасіць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у першым квартале 1994 года абмеркаваць гэта пытанне і прыняць пастанову, у якой даручыць адпаведным міністэрствам і ведамствам Рэспублікі:

а) да 1 красавіка 1994 г. вызначыць базавае прадпрыемства і парадак выпуску на ім знакаў паштовай аплаты па заяўках Мінсувязі і забяспечыць выкананне патрабаванняў рэжымнасці, высокую якасць, улік і захаванне выраблeнай прадукцыі;

б) адшукаць магчымасць і выдзеліць неабходную суму СКВ для набыцця і транспартавання паліграфічнага абсталявання і матэрыялаў для выпуску дзяржаўных знакаў паштовай аплаты;

в) прадугледжваць выдзяленне па заяўках базавага прадпрыемства, якое будзе выпускаць знакі паштовай аплаты, спецыяльных сартоў паперы, фарбаў і іншых неабходных матэрыялаў, што забяспечваюць высакаякаснае паліграфічнае выкананне паштовых марак і іншай філатэлістычнай прадукцыі;

г) забяспечыць выданне каталогаў, мастацкіх маркіраваных канвертаў і паштовак, у тым ліку і сувенірных набораў, аднавіць выпуск клясераў, клемташаў і іншай філатэлістычнай прадукцыі;

д) увесці дадатковы паказчык у квартальную справаздачу Ф.65-сувязь: «Рэалізавана знакаў паштовай аплаты»;

ж) актывізаваць у рэспубліцы работу па шырокай рэкламе выпушчаных знакаў паштовай аплаты, выкарыстоўваючы для гэтых мэтаў сродкі масавай інфармацыі, магчымасці Беларускага саюза філатэлістаў і арганізоўваючы з іх удзелам тэматычныя рэспубліканскія філатэлістычныя выстаўкі, конкурсы, агляды і інш., запрашаць на выстаўкі-прэзентацыі дзяржаўных знакаў паштовай аплаты прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса, журналістаў, грамадскасць горада і рэспублікі.

з) правесці ў кастрычніку 1994 года ў Мінску рэспубліканскую выстаўку «Паштовыя маркі ў Беларусі».

# Немцы — нацыя філятэлістаў

У сапраўдную «нацыю філятэлістаў» пераўтварыліся ў сёньняшні час немцы: ні ў адной краіне, акрамя Нямеччыны, няма столь магутнай арміі калекцыянераў паштовых марак у адсоткавым вызначэньні да колькасьці насельніцтва.

Аднак абсалютную большасьць асабістага складу гэтага 4-мільённага войска ствараюць мужчыны старэй за 50 год. І толькі каля 10% зьбіральнікаў — жанчыны. На думку актывіста Саюза нямецкіх філятэлістаў Райнера Вішамірскі, большасьць прадстаўніц слабага полу згаджаюцца прыйсьці на паседжаньне клюбу аматараў паштовых марак толькі тады, калі ў іх праграму ўключаны танцы й іншыя разрыўковыя мерапрыемствы...

Сярод сяброў Саюза нямала вядомых палітычных і грамадзкіх дзеячоў Нямеччыны, у тым ліку Ханс-Дзітрых Гэншэр, Крысціан Шварц-Шылінг.

Самая каштоўная ў сьвеце паштовая марка, якая выпушчана ў 1851 годзе, таксама паходзіць з Нямеччыны. Чатыры гады таму яе набыў на аўкцыёне ў Вісбадэне амэрыканскі мульцімільянэр за 2,3 мільёну нямецкіх марак. На самых прадстаўнічых міжнародных алімпіядах філятэлістаў заўсёды ўдзельнічаюць дзесяткі калекцыянераў з ФРН, і частка з іх вяртаецца дахаты з мэдалямі. Апошнім часам, кошт шмат раней выдадзеных марак рэзка ўзьняўся: сярод іх вядомы блёк зь пяці марак сэрыі, які прысьвечаны кампазытару Рыхарду Вагнэру (1933), знакі паштовай аплаты НДР.

# УКЛАД У БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ




Беларуская філякартыстыка і з надыходам дзяржаўнага сувэрэнітэту надалей застаецца бедным дзіцяткам. Зірніце на паліцы шапікаў і кнігарняў — адзіныя паасобнікі! Фактычна нікім ня ўзята ў разьлік, што паштовая картка магла б стаць годным сродкам выхаваньня на карысьць беларускага Адраджэньня. Безумоўна, у адказ на гэтую выснову можна пачуць усюды ўжывальнае: маўляў, эканоміка цяпер не дае аніякіх шанцаў на разьвіцьцё нацыянальнай філякартыі...

Ды руплiўцы на ніве беларушчыны лічаць іначай, чым дзяржаўныя выдаўцы. І, як вынік, — у Рызе пабачыла сьвет прыгожая паштовая картка «Кастусь Езавітаў. Слаўны дзеяч беларускага Адраджэньня ў Латвіі. 1893—1946». Мастак — Вячка Целеш. Паштоўка, выдадзеная Латвійскім таварыствам беларускай культуры «Сьвітанак», прысьвечана 100-годзьдзю з дня нараджэньня Кастуся Езавітава — палітычнага дзеяча, асьветніка, навукоўца. Яна, у адрозьненьне ад іншых падобных выданьняў, прызначана менавіта да выкарыстаньня ў сыстэме сувязі, бо адпавядае прынятаму паштоваму стандарту, мае подпісы на беларускай і латыскай мовах. Паштоўка пазначана нумарам адзін. Значыць: у латвійскіх беларусаў ёсьць і іншыя задумкі. Будзем спадзявацца, што яны зьдзейсьняцца.

Набыць паштоўку ў Менску можна ў «Кнігарні пісьменьніка».

Ганна ЦІТАЎКА.

# Каляндарны шанец

Усялякае калекцыяваньне тады мае свой плён, калі ад асоб энтузіястаў той ці іншы напрамак зьбіраньня пераходзіць да шырокіх колаў людзей. Часам калекцыяваньне носіць умоўны характар. Да прыкладу, чалавек зьбірае кнігі на тую ці іншую тэму. Зьбірае з-за таго, што яны патрэбны яму ў працы. Ці ў чыйсьці хаце сабралася за колькі гадоў процьма часопісаў ці газэтаў... А яшчэ ж календары. Чаго грэх хаваць, шмат для каго (разам з «раёнкай») яны зьяўляюцца галоўнай і адзінай крыніцай інфармацыі. І таму, дбаючы пра ўсеагульны рост народнай самасьвядомасьці, выданьне календароў варта зрабіць справай надзвычайнага дзяржаўнага клопату.

Варта зазначыць, што з аднаўленнем беларускай дзяржаўнасьці пэўныя зрухі зроблены. Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» выпусьціла тры настольныя календары «Беларускі каляндар» — на 1991, 1992, 1993 гады. А «Беларусь» — адрыўны каляндар «Родны край». У «Мастацкай літаратуры» двойчы выдаваўся літаратурна-мастацкі каляндар «Кола дзён». Канешне ж, у асьвятленьні тых ці іншых дат, тэмаў календары можна крытыкаваць. Ёсьць памылкі, спрацоўвае часам забыцьцё (будзем спадзявацца, што не наўмыснае). Але ж галоўнае — календары ёсьць. Шкада, што не выдаецца «Кола дзён». Шкада, што няма календара ў кожным з выдавецтваў. Мог жа быць бы і «Сельскагаспадарчы каляндар», і «Дзіцячы каляндар», і «Каляндар паляўнічага й рыбалова», «Навука й тэхніка», і «Беларускі спартыўны каляндар»... Словам, пакуль вольная ніша, то чаму б яе не запоўніць? А разам з каляндарна-інфармацыйным абсягам да самага шырокага кола людзей можна ўвесьці й матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі, культуры, літаратуры й мастацтву Беларусі.

Праўда, менавіта гэты крок, гэты важкі накірунак патрабуе многіх высілкаў. Найперш — дзяржаўных. Здзіўляе, да прыкладу, той факт, што «Беларускі каляндар, 1993» (выпускае «Беларуская энцыклапедыя»), выданьне якога пазначана 1992 годам, зьявіўся ў кнігарнях недзе не напрыканцы першага квартала 1993 года. Вось і задумайцеся, хто яго набудзе? Рыначная эканоміка заганяе ў кут кнігадрук. Але ж на каляндарныя выданьні па магчымасьці патрэбна выдзяляць самыя высокія дзяржаўныя датацыі.

І пра калекцыянераў. Давайце часьцей расказваць у друку пра калекцыі календароў, пра тое, як яны дапамагаюць у працы людзям рознага фаху. Патрабуе асобнага асьвятленьня й гісторыя беларускай каляндарнай справы. Словам, беларускі каляндар можа й павінен папрацаваць на Адраджэньне. Але ж і ўсе мы павінны паспрыяць сярод будзённай мітусьні каляндарнай справе.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.
Менск.

# Першыя маркі Рэспублікі Беларусь з наддрукоўкай

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь з-за звышвысокіх тэмпаў інфляцыі ўжо другі год не пасьпявае друкаваць маркі з наміналамі, адпаведнымі кошту аплаты дасылкі паштовай карэспандэнцыі.**

Спрабуючы вырашыць гэту праблему шляхам выкарыстаньня запасаў старых марак капеечных наміналаў, Міністэрства сувязі зьвярнулася да практыкі часоў грамадзянскай вайны і зрабіла на гэтых марках чорныя наддрукоўкі новага наміналу. Так 30-капеечная марка стала 15 рублёвай, 45-капеечная — 25 рублёвай, 50-капеечная — 50 рублёвай. Але за ўрадам таварыша Кебіча не паспееш — ужо патрэбныя маркі тысячарублёвых наміналаў. На просты авіяліст за межы СНД з 1 лютага трэба клеіць марак на 1500 рублёў: 10 марак найвышэйшага 150 рублёвага наміналу.

Вячаслаў БАКУНОЎСКІ.

РОССИЯ РОССИЯ
ROSSIJA ROSSIJA

BANK VOSTOK

450054, г. Уфа, ул. Шафиева, 9/1
Факс: 32-90-01
Тел.: 32-01-89
32-08-70

9/1, Shafieva St., Ufa, 450054, Russia
Fax: 32-90-01
Phone: 32-01-89
32-08-70

## *ПАДКАЗКА ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ БІЗНЭСМЭНАЎ*

*Цікавы канвэрт прынёс мне ліст з Масквы. Выяву малюнку вы бачыце на здымку. Асабіста мне такі канвэрт, на якім зьмешчана рэкламная інфармацыя, трапляецца першы раз. Банкіры з Уфы, па ўсім відаць, прыйшлі да высновы, што канвэрты — найлепшы сродак распаўсюджваньня зьвестак аб сваёй установе.*

*Чаму б і беларускім бізнэсмэнам ня ўзяць гэты досьвед на ўзбраеньне? Да таго ж, канвэрты маглі б стаць выразнымі распаўсюднікамі беларускага слова.*

*Беларускі нацыянальны бізнэс паціху пашыраецца. І чаму б нам ужо сёньня ня мець канвэртаў з прапагандаю такіх фірмаў, да прыкладу, як "Дайнова", "Атлант", "Кросны", "Таір", "Fаір", "Fico", шэраг іншых. Заўважым, прапаганда ня толькі ў межах Беларусі, але й ва ўсім сьвеце. Дарэчы, заўжды вялікім густам сярод іншай рэклямы, вылучаецца рэкляма "Дайновы". Дык, можа, яе канвэрт зьявіцца першым?*

*Неспадзеўкі ўгледжанае слова — таксама шанц, магчымасць прыцягненьня да беларускага слова ўвагі няхай сабе і самага нясьведамага адрасата. А час у нас цяпер такі, што выкарыстоўваць трэба кожны шанц.*

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,*
*г. Менск.*

# ДЗІЦЯЧЫ ФОНД ДУХОЎНАГА І ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАГА АДРАДЖЭНЬНЯ «САКАВІК»

CHILDREN'S FUND FOR SPIRITUAL AND INTELLECTUAL RENASCENCE «SAKAVIK»

Дзіцячы фонд духоўнага і інтэлектуальнага адраджэньня «Сакавік» — дабрачынная грамадзкая арганізацыя, асноўная мэта якой — спрыяньне працэсу адраджэньня беларускай культуры, забесьпячэньне духоўнага і фізычнага здароўя дзяцей і юнацтва, ад якіх залежыць лёс нашага народу.

Важнай задачай мы лічым вяртаньне маладога пакаленьня да традыцыйных хрысьціянскіх і нацыянальных каштоўнасьцяў і агульначалавечых вартасьцяў, ад якіх таталітарны рэжым адлучае нас на працягу доўгіх дзесяцігодзьдзяў. Імкнемся адкрыць і паспрыяць разьвіцьцю юных талентаў у самых розных галінах навукі, культуры й мастацтва. Нефармальны, пазбаўлены комплексаў мінуўшчыны падыход да разгляду й вырашэньня гэтых праблемаў вызначае характар нашых дзеяньняў.

Мы зьвяртаемся да ўхсіх сяброў і аднадумцаў з заклікам аб'яднаць нашыя намаганьні й дапамагчы дзецям Беларусі.

Дзіцячы фонд духоўнага і інтэлектуальнага адраджэньня «САКАВІК» дзейнічае ў некалькіх кірунках:

«ДАПАМОГА ДЗЕЦЯМ» — аказаньне матэрыяльнай, мэдычнай і сацыяльнай дапамогі сіротам, хворым і іншым дзецям, што патрабуюць падтрымкі; арганізацыя лячэньня, аздараўленьня, адпачынку дзяцей і падлеткаў у Беларусі й за яе межамі; набыцьцё мэдыкамэнтаў, мэдычнага абсталяваньня, дзіцячага харчаваньня, лекаў, вітамінаў.

«ЮНЫЯ ТАЛЕНТЫ» — пошук і падтрымка таленавітых дзяцей, арганізацыя клюбаў і навукова-культурных ініцыятываў з мэтай разьвіцьця інтэлектуальных здольнасьцяў падлеткаў, арганізацыя конкурсаў, віктарынаў, алімпіядаў, выстаў, канцэртаў, усталяваньне й разьвіцьцё культурных і агульнаадукацыйных сувязяў, уключаючы абмен школьнікамі й студэнтамі Беларусі й іншых дзяржаваў; забесьпячэньне дзяцей рэлігійнаю літаратурай на беларускай мове, спэцыяльнаю літаратурай па розных прадметах, матэрыяламі, неабходнымі для творчай працы.

«НАДЗЕЯ» — садзеяньне ўсынаўленьню дзяцей і падлеткаў у адпаведнасьці зь дзейным заканадаўствам Рэспублікі Беларусі.

З пажаданьнем посьпехаў і надзеяй на супрацоўніцтва

Марыя МІЦКЕВІЧ,
Старшыня Дзіцячага фонду духоўнага й інтэлектуальнага адраджэньня «САКАВІК».

## *АБ'ЯВЫ*

1. Набуду старыя папяровыя грошы, улёткі, плакаты. Тэл. (0172) 793-153 ўвечары.

x x x

2. Набуду паштовыя выпускі Беларусі. Прапаную маркі Расеі, СССР. Расейская Фэдэрацыя, 248030, Калуга, вул. Пляханава, 12-169, Зінькову А. А.

x x x

3. Украінскі калекцыянер жадае наладзіць абмен украінскіх паштовых марак на беларускія. Украіна, 254208, Кіеў, п/с 38.

x x x

4. Набуду кнігі, часопісы, матэрыялы па гэральдыцы, генэалёгіі й сфрагістыцы ў розных мовах. Магчымы абмен. Беларусь, 220102, Менск-102, п/с 212, Уладзіславу Вяроўкіну.

x x x

5. Дапамагу набыць калекцыйны матэрыял для калекцыянераў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны. На Ваш запыт вышлю навінкі філятэліі, філякартыі. Беларусь, 220050, Менск-50, п/с 358, Анатоль Бязьменаў.

x x x

6. Шукаю кнігі па нумізматыцы, баністыцы, грашоваму абарачэньню, газэту «Беларускі калекцыянер» № 1. Беларусь, 212004, г. Магілёў, Віцебскі пр-т, 13-5.

# БЕЛАРУСКІЯ СУРАГАТЫ ГРАШОВАЙ АПЛАТЫ

Нелады ў фінансавай гаспадарцы краіны вядуць да самых разнастайных анамальных зьяў. Характэрным прыкладам зьяўляецца выкарыстаньне ў грашовым абарачэньні рознага кшталту сурагатаў – заменьнікаў грошай. Тэрмін "сурагаты" не зусім дакладны, але разам з тым дазваляе абагульніць дастаткова разнастайныя зьявы. Сурагатамі маглі зьяўляцца выпадковыя рэчы (напрыклад, паштовыя і клюбныя маркі), а таксама наўмысна выробленыя знакі, вядомыя пад рознымі назвамі: маркі, боны, жэтоны, токены і г. д.

Гаворка надалей пойдзе пра выпадкі выкарыстаньня сурагатаў грашовай аплаты пераважна на тэрыторыі Беларусі. Разам з тым, аўтар палічыў мэтазгодным прывесьці вядомыя яму зьвесткі аб заменьніках грошай на сумежных зь Беларусьсю тэрыторыях, што дазволіць чытачу больш наглядна ўявіць з'яву, скласьці пра яе больш дакладнае і яскравае ўяўленьне.

Найбольш раньні прыклад датуецца канцом XYIII ст. і зьвязаны з прозьвішчам С. Зорыча – уладальніка вялікага маёнтка на Шклоўшчыне. Зорыч вёў шыкоўнае жыцьцё, а гэта даволі часта ставіла яго ў цяжкае фінансавае становішча. У адным з папярэдніх нумароў "Беларускага калекцыянэра" я распавядаў пра тое, што Зорыч меў дачыненьне да выпуску фальшывых асыгнацыяў. Фінансавыя цяжкасьці падштурхнулі яго і да выбару грашовых сурагатаў. С. А. Тучкоў, які асабіста ведаў С. Зорыча і нават знаходзіўся зь ім у сваяцкіх дачыненьнях, засьведчыў наступнае: "Зорыч, здаецца, вынайшаў сродак, як зрабіць больш даўгоў. Ён нават прыдумаў свае асыгнацыі. Гэта былі невялічкія паперкі адмысловага выгляду, на якіх быў зьмешчаны кошт ад 5-ці да 100 рублёў, з пропісам плаціць зь ягонага набытку; і, калі ён меў патрэбу ў грошах, то падпісваў іх і выдаваў. Жыды ахвотна іх прымалі. Пасьля ягонай сьмерці ў першую чаргу было заплочана па гэтых асыгнацыях, чым па вэксалях".

Цікавыя сьведчаньні тычыцца сучаснай тэрыторыі Эстоніі. У пач. 1820-х гг. у Рэвельскай гімназіі пачаў працаваць расейскі настаўнік Лялікаў. Сярод іншага, яго ўразіў той факт, што выкладчыкі мясцовай гімназіі атрымлівалі плату (Schulgeld – школьныя грошы) ня толькі асыгнацыямі і звонкай манэтай, але і клюбнымі маркамі. Мэмуарыст наступным чынам апісаў іх выгляд: "Яны былі пэргамэнтавыя, вялічынёю ў сярэднюю візытную картку, і ўяўлялі вялікую зручнасьць пры разьліках. Рыхтаваліся яны звычайна ў адзін рубель, пяцьдзесят капеек і ў дваццаць пяць. Аб падробках ці фальшывых – чутак не было."

Папярэдняе сьведчаньне добра дапаўняе ўспамін вядомага хірурга і грамадзвядомага хірурга і грамадзкага дзеяча Расеі М. І. Пірагова, які ў 1828-1829 гг. у Дэрпце рыхтаваўся выпрабаваньня на прафэсарскае званьне. Ён засьведчыў: "Нават грошы былі правінцыйныя sui generis, скураныя і кардонныя. Нам выдавалі аплату з павятовага скарбу пачкамі скураных і кардонных чатырохкутных лісткоў, памерам як звычайная візытная картка. Ня ведаю хто – гарадскія ці губэрнскія – уладны і таварыствы мелі дазвол на выпуск гэтай манэты; але яна не была звыш двух рублёў і ніжэй за 50 капеек..."

У Чэрыкаўскім пав. з канца XYIIIда 70 гг. XIX ст. дзейнічаў Старынкаўскі (ці інакш Уладзімірскі) чугуналіцейны завод. Для свайго часу гэта было буйное прадпрыемства. Маюцца зьвесткі, што недзе ў сярэдзіне XIX ст. уласьнік заводу вырабіў медныя грошы для разьліку з рабочымі.

Гэтае ляпідарнае сьведчаньне цалкам суадносіцца зь іншымі матэрыяламі (па-за межамі Беларусі), якія дазваляюць сьцвярджаць, што падобная практыка не была выключэньнем.

Пачаткам 60-х гг. XIX ст. датуецца наступны запіс: "Пры канцы 1862 г. у Беластоку чамусьці адчуваўся вялікі недахоп у разьменнай манэце і, каб дапамагчы бядзе, навакольнымі суконнымі і баваўнянымі фабрыкантамі выпушчаны былі ў абарачэньне самаробныя грашовыя знакі з кавалачкаў драпу, прастакутнага выгляду, даўжынёю ў 1 1/2 цалі і шырынёю ў 1 цалю (1 цаля – 2,54 см – В. К.) з адбіткамі жоўтай фарбаю на іх назвы фабрыкі, сумы грошай (на нямецкай мове); кавалачкі драпу былі ў 15, 30 і 60 капеек. Акрамя гэтых, умоўна кажучы, "суконных" грошай, у абарачэньні былі яшчэ асобныя "папяровыя" грашовыя знакі, г. зн. невялічкія кавалкі паперы, памерам зь візытную картку, на якіх было надрукавана, напр.: "за рэзку гусі 50 кап.", "за рэзку парасяці 60 кап." і г. д. Часам разьменнаю манэтаю служылі і паштовыя маркі. Такім чынам, у партманэце зьбіралася самая разнастайная, не прадугледжаная нумізматамі калекцыя грашовых разьменных знакаў, а менавіта – побач з крэдытнымі білетамі, саракоўкамі (20 кап. – В. К.) ды іншаю дробязьзю былі рублёвыя паперкі польскага банку (крыху меншыя памерам і з польскім тэкстам), паперкі з надпісам, напр., "за рэзку парасяці", паштовыя маркі, кавалачкі драпу рознай вартасьці, "дзесёнткі" (польскія манэты з нікелю ў 10 грошай), медныя "трохграшуўкі" (3 грошы, роўныя 1 1/2 капейкам). Сапраўды рэдкая калекцыя, і я шкадую, што не захаваў яе на памяць. Аўтар таксама дадае, што паштовыя маркі ў якасьці разьменнай манэты выкарыстоўваліся ў 1860-1861 гг. у Вільні.

Прыканцы 50-х – пач. 60-х гг. XIX ст. падобнае зафіксавана ў Гарадзенскай Прыканцы 50-х – пач. 60-х гг. XIX ст. падобнае зафіксавана ў Горадзенскай губэрніі: "Калі адчуваўся моцны недахоп у звонкай манэце, мясцовыя жыхары ўжывалі розныя хітрыкі. Яны выраблялі нешта накшталт асыгнацыяў коштам ад 5 да 75 кап. – цэтлікі... Калі крызыс мінуў, зноў зьявіліся пацямнелыя дзясяткі і пяцёркі."

Аўтар, схаваўшыся пад ініцыялам – А. Г. і пакінуўшы цікавыя "Запіскі яўрэя", характыразаваў абарачэньне ў Паўночна-Заходнім краі (60-70-я гг. XIX ст.) наступным чынам: "Нясьвіскі карыстаўся неабмежаваным крэдытам сярод ковеньскіх яўрэяў, а яго ўласныя крэдыткі прымаліся яўрэямі, як дзяржаўныя грошы. Крэдыткі гэтыя пісаліся на звычайных кавалачках паперы і былі забясьпечаны толькі подпісам Нясьвіскага і ягонай уласнай пячаткай, маючы кошт ад 5 капеек да 5 рублёў. Каса Нясьвіскага акуратна плаціла па іх налічныя грошы без усялякай затрымкі. Дарэчы, падобныя асыгнацыі выпускалі і іншыя яўрэйскія багацеі, і ня толькі ў Коўне, але ва ўсіх гарадох Паўночна-Заходняга краю, населеныя яўрэямі, так што адзін час сапраўдныя крэдытныя білеты амаль зусім зьніклі з абарачэньня".

Праведзеныя зьвесткі, на жаль, ня вельмі канкрэтныя і, у большасці, досыць ляпідарныя. Разам з тым, яны пэўным чынам характарызуюць сытуацыю на рынках Беларусі і сумежных тэрыторыях. Гэтая анархія не засталася без увагі ўладаў, вынікам чаго стаў указ 1870 г. аб забароне выпуску ў Расеі якіх-небудзь прыватных грошай.

Нягледзячы на забарону, сурагаты грашовых знакаў пэрманэнтна зьяўляліся на тэрыторыі Расейскай Імпэрыі. На жаль, пра сытуацыю на Беларусі сказаць нешта канкрэтнае ня маю магчымасьці дзеля браку зьвестак. Становішча на Украіне нейкім чынам характарызуе паведамленьне А. П. Шышкіна (Днепрапятроўск) "Металлическіе боны Украіны конца XIX – начала XX в." Нумізматіка і офрагістіка, 5. Кіев, 1974).

Масавы выпуск грашовых сурагатаў прыходзіцца на 1917 – пач.1920 гг. Зазначу толькі вядомыя мне населеныя пункты, дзе адбываўся выпуск заменьнікаў грошай: Беласток, Берасьце, Горадня, Ліда, Пінск, Гомель, Ігумен, Вільня, Магілёў, Мазыр, Менск, Рагачоў, Слуцк, в. Калышкі Віцебскага павету. Больш падрабязна пра гэта глядзі: Каталог бон і дензнаков Россіі, РСФСР, СССР, окраін і образованіў (1769-1927). Л., 1927; перавыданьне – М., 1991. В.Соколов, М. Іванов. Каталог частных бон (денежных знаков необязательного обраіенія), выпуіенных на терріторіі СССР, в 1914-1925 гг.

Ростов-на-Дону, 1925. В. Соколов, М. Іванов, Каталог частных бон. Дополненіе. Ростов-на Дону, 1926.

Валеры Касмылёў
г. Менск

## Ялінка ў Чыкага



*Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага, Іліной, выдаў летась калядныя карткі, прадстаўляючы беларускую ялінку, ладжаную штогод ад 1978 г. у Музэі Навукі й Індустрыі ў Чыкага. Здымак быў зроблены спадаром Нікадэмам Жызьнеўскім, а мастацкае афармленьне й тэкст. — апрацавала спадарыня Вера Рамук.*

*Напачатку ўборы на ялінцы былі скрыначкі розных геамэтрычных фігураў, зрыхтаваных Генрыхам Сенкевічам, часткова Антонам Беленісам, а ўзоры на скрыначках былі прыгатаваныя спадарыняй Людвікай Беленіс, арнамэнты з саломкі часткова нарыхтаваныя Гэняй Беленіс і спадарыняй Эўдакіяй Жызьнеўскай. Цяпер ялінка мае выключна арнамэнты з саломкі ў вясёлкавых калярах, што рыхтуе спадарыня Людвіка Беленіс. Пры ўбіраньні ялінкі дапамагаюць спадарства Вера і Вітаўт Рамукі, спадарыня Ірэна Пануцэвіч, спадарства Васіль і Маргот Багданы, спадары Лявон Беленіс, Нікадэм Жызьнеўскі і Міхась Махнач. Беларуская ялінка папулярная сярод наведнікаў; абслуга Музэя інфармуе пра Беларусь.*

*Выданьнем гэтай каляднай карткі мы ўшаноўваем працу мастачкі Людвікі Беленіс і ўсіх, хто дапамагае.*

*Др. Вітаўт РАМУК.*

## На радасць філатэлістам

**Першая марка сувярэннага Казахстану — «Залаты вой» — адразу зрабілася філатэлістычнай рэдкасцю. Унікальнасць яе — у памылках, стварыўшых марцы такую славу, што набыць яе практычна немагчыма.**

**Выява зроблена на аснове элементаў баявога рыштунку знатнага сакскага воя, знойдзенага казахстанскімі археолагамі ў 1970 годзе пры раскопках кургана пад горадам Ісыкколь. Тады вучоныя знайшлі скарб больш чым з 4 тыс. залатых упрыгожванняў вялікай мастацкай каштоўнасці. Праз тыдзень пасля прэзентацыі першай маркі ў міністэрстве сувязі і выпуску яе ў паштовае абарачэнне ў «Казахсанскай праўдзе» з'явіўся артыкул вучоных-гісторыкаў К. і А. Акішавых, дзе звярталася ўвага на «праколы» — памылкі, зробленыя пры паспешным выданні «першынца».**

**На бяду (а для філатэлістаў — на радасць) «Залаты вой» быў надрукаваны ў люстэркавым выглядзе. Таму меч і кінжал на поясе памяняліся месцамі, і вой, такім чынам, зрабіўся ляўшой. Акрамя таго, мужчыны-сакі ў Y стагоддзі да н. э. запахвалі аддзенне справа налева, а на марцы атрымалася наадварот — як у жанчын. Але і гэта не ўсё. У англійскім напісанні назвы рэспублікі прапушчана літара...**

**Агульным лікам 2,5 млн. асобнікаў першай паштовай маркі суверэннай Рэспублікі Казахстан былі зняты з абарачэння. Пэўную частку тыражу раскупіла насельніцтва (у т. л. філатэлісты), але нязначную.**

**Так «Залаты вой» сапраўды зрабіўся залатым.**

К. ЛЕЎ.




## *Першая беларуская паштоўка з арыгінальнай маркай*

*У канцы 1993 году, 28 кастрычніка, Міністэрства сувязі Беларусі выпусьціла ў паштовае абарачэньне першую паштоўку з арыгінальнай маркай. Надрукавана яна на Менскай картаграфічнай фабрыцы накладам 50 тысячаў паасобнікаў. Паштоўку афармлялі А. Макаранка й М. Шыфрын. Дарэчы, апошні на працягу шэрагу гадоў быў старшынёй Гомельскага аддзяленьня Беларускага Саюзу Філятэлістаў. Гэты выпуск прысьвечаны 50-годзьдзю вызваленьня Гомеля ад фашысцкіх захопнікаў. Пра юбілейны характар паштоўкі сьведчыць надпіс пад малюнкам: "50 гадоў з дня вызваленьня Гомеля ад фашысцкіх захопнікаў". Пад выявай танка — помніка зьмешчана дата "1943—1993.26.XI.". У гэты дзень паўстагодзьдзя таму ў ходзе Гомельска-Рэчыцкай апэрацыі горад над Сожам, першы буйны беларускі горад, быў вызвалены ад фашыстаў.*

*На марцы паштоўкі — герб Гомеля, дата (1142 г.) першага ўпамінаньня горада ў летапісах, надпіс "Беларусь", намінал маркі "5.00" рублёў і год выпуску паштоўкі "1993".*

*У юбілейны дзень на Гомельскім паштамце праводзілася адмысловае гашэньне карэспандэнцыі. На малюнку штампа гашэньня тая ж выява, што й на паштоўцы. Гэта ня першы паштовы штэмпель. Адмысловае гашэньне праводзілася ў Гомелі ў 20, 25, 30-я ўгодкі вызваленьня горада.*

**ЛЕЎ КОЛАСАЎ, г. Менск.**




## *НОВЫ ЗНАК*

***Да 50-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў Менскі эксперымэнтальны завод імя Гастэлы выпусьціў памятны знак. Аўтары знака мастак Мікалай Гаўрыловіч і гравёр Аляксандр Холад.***



**БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР**

Год заснаваньня 1990

Рэдакцыйная калегія:
Уладзімір ЦЯРОХІН
Мікола ДЗЕМІДОВІЧ
Андрэй МЕЛЬНІКАЎ

*Пры перадруку просьба спасылацца на "Беларускі калекцыянер". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваньнямі аўтараў публікацый.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў.*

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*

220131, Менск-131, п/с 417,
Цярохін Уладзімір Станіслававіч
(тэл. 61-21-78)

АРШАНСКАЯ ДРУКАРНЯ

Наклад
1000 асобнікаў
Заказ №3043.